ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# "У БЕЛАРУСІ АДБЫВАЕЦЦА РАДЫЯЦЫЙНЫ ГЕНАЦЫД". АВАРЫЯ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС У ПУБЛІКАЦЫЯХ ЛЮКСЕМБУРГСКАГА ДРУКУ

АЛЯКСАНДР ФРЫДМАН

***Анатацыя:*** У артыкуле аналізуецца асвятленне Чарнобыльскай трагедыі і яе наступстваў у люксембургскай прэсе. Паказваецца, што пасля аварыі ў Чарнобылі ў Люксембургу разгарнулася дыскусія, у якой закраналіся галоўным чынам чатыры пытанні: 1) Якія наступствы мае трагедыя для насельніцтва Люксембурга? 2) Ці можа падобная аварыя адбыцца ў Заходняй Еўропе? 3) Як трэба ставіцца да выкарыстання атамнай энергіі пасля Чарнобыля? 4) Чым можа Люксембург дапамагчы ахвярам Чарнобыля? Аварыя ў Чарнобылі ўзмацніла ў Люксембургу цікавасць да Беларусі.

***Ключавыя словы:*** Чарнобыль, Беларусь, Люксембург.

## "RADIATION GENOCIDE IN BELARUS". CHERNOBYL DISASTER IN LUXEMBOURG PRESS

***Abstract:*** The article analyses the coverage of the Chernobyl disaster and its consequences in the Luxembourg mass media. The discussion that took place in Luxembourg after the accident in Chernobyl concerned four major questions: 1) What are the consequences of the disaster for the population of Luxembourg? 2) Can a disaster like that occur in Western Europe? 3) What should the post-Chernobyl attitude to the nuclear energy use be? 4) How can Luxembourg help the victims of Chernobyl? The Chernobyl disaster has further strengthened Luxembourg's interest in Belarus.

***Keywords:*** Chernobyl, Belarus, Luxembourg.

Пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі (ЧАЭС, 26 красавіка 1986 года) заходні друк уважліва сачыў за падзеямі на пацярпелых тэрыторыях СССР і за наступствамі трагедыі. Не стала выключэннем і Вялікае Герцагства Люксембург (ВГЛ). Віяланчэлістка Франсуаза Гробэн (Françoise Groben), мовазнаўца Жозэф Гробэн (Joseph Groben), анколаг Марыа А. Дзіката (Mario A. Dicato) і іншыя вядомыя ў Люксембургу асобы заклікалі мясцовае насельніцтва дапамагчы ахвярам Чарнобыля і перш за ўсё дзецям (Изгаршев, 1991). Асвятленне Чарнобыльскай трагедыі і становішча на Беларусі пасля 1986 года будзе прааналізавана ў гэтым артыкуле на прыкладзе публікацыяў незалежнага штотыднёвіка *d’Lëtzebuerger Land* (“Люксембургская краіна”). Заснаванае ў 1954 годзе выданне падтрымлівала працэсы інтэграцыі ў Заходняй Еўропе, надавала асаблівую ўвагу праблемам аховы навакольнага асяроддзя і арыентавалася перш за ўсё на інтэлектуальных чытачоў, а таксама на прыхільнікаў уплывовых дэмакратычнай (ліберальнай) і сацыялістычнай-рабочай (сацыял-дэмакратычнай) партыяў (Hilgert, 2004: 216–217).

Пасля аварыі ў Чарнобылі люксембуржцаў перш за ўсё цікавіла пытанне, чым пагражае экалагічная катастрофа ў СССР іх краіне. 9 траўня 1986 года *d’Lëtzebuerger Land* паведаміў, што кіраўнік люксембургскага ўрада Жак Сантэр (Jacques Santer) заклікаў савецкі бок неадкладна прадставіць поўную інфармацыю аб прычынах і наступствах аварыі, а таксама зачыніць атамныя электрастанцыі, абсталяваныя “рэактарамі чарнобыльскага тыпу” (j.p.h., 1986a). У люксембургскай прэсе друкаваліся афіцыйныя паведамленні пра радыяцыйны стан прадуктаў харчавання ў мясцовым гандлі (*d’Lëtzebuerger Land,* 1986a; *d’Lëtzebuerger Land,* 1986b). Напрыканцы 1986 года Міністэрства аховы здароўя Люксембурга падрыхтавала справаздачу, у якой адзначалася, што выбух у Чарнобылі не паўплываў негатыўна на агульны стан здароўя насельніцтва ВГЛ (*d’Lëtzebuerger Land,* 1986c; j.p.h., 1987). Афіцыйныя асобы падкрэслівалі, што на Захадзе аварыя, падобная да чарнобыльскай, увогуле немагчымая, бо ў заходняй атамнай энергетыцы (у адрозненне ад СССР) выкарыстоўваюцца перадавыя тэхналогіі, якія гарантуюць бяспеку насельніцтва (j.p.h.: 1987). Гэтыя заявы былі ўспрыняты ў Люксембургу досыць скептычна. Пад уплывам аварыі ў Чарнобылі пераважная большасць насельніцтва (79%) выказвалася ў чэрвені 1986 года супраць выкарыстання атамнай энергіі (j.p.h: 1986b). Асабліва непакоіла люксембуржцаў АЭС у памежным французскім Катэноме (Cattenom), якую французскі бок, нягледзячы на падзеі ў Чарнобылі, у лістападзе 1986 года запусціў у эксплуатацыю (l.th., 1986; j.p.h., 1986a; j.p.h., 1986b).

Чытачы *d’Lëtzebuerger Land,* якія цікавіліся чарнобыльскай тэматыкай, ведалі, што менавіта Беларусь найбольш пацярпела ад выбуху на

ЧАЭС. У якасці прыкладу можна прывесці допіс Дыанэ Вэльтэр (Diane Welter) і Антуанэтэ Шміт (Antoinette Schmitt), які газета надрукавала ў кастрычніку 1990 года. Заклікаючы да закрыцця АЭС у Катэноме, Вэльтэр і Шміт нагадалі пра жахлівыя наступствы аварыі ў Чарнобылі і звярнулі ўвагу на словы беларускага хіміка Алега Шадыры, які ў красавіку 1990 года адзначыў, што на Беларусі пасля Чарнобыля адбываецца “сапраўдны радыяцыйны генацыд” (Welter and Schmitt, 1990).

Пасля выбуху ў Чарнобылі ў Люксембургу было распаўсюджана меркаванне, што савецкія ўлады наўмысна замоўчваюць сапраўдныя маштабы трагедыі. У 1992 годзе *d’Lëtzebuerger Land* слушна падкрэсліў, што абраны Масквой у 1986 годзе шлях замоўчвання і скажэння фактаў мае для Беларусі і Украіны драматычныя наступствы (pbs, 1992).

На пачатку 1990-х гадоў штотыднёвік узняў пытанне, чым заможны Люксембург можа дапамагчы ахвярам Чарнобыля. 17 траўня 1991 года *d’Lëtzebuerger Land* надрукаваў вялікі артыкул пра лейкемію ў Беларусі. Вядомы анколаг Марыа А. Дзіката з клінікі Centre Hospitalier de Luxembourg (CHL) прагназаваў рэзкае павелічэнне колькасці хворых на лейкемію ў Беларусі пасля Чарнобыля і адначасова падкрэсліваў гаротны стан аховы здароўя ў гэтай рэспубліцы. Дзіката адзначаў, што калі ў Беларусі 85% хворых на лейкемію дзяцей памірае, дык у заходніх клініках амаль у 70% выпадкаў удаецца перамагчы захворванне. Ён меркаваў, што вываз беларускіх дзяцей на лячэнне за мяжу (CHL прымаў у сябе пацыентаў з Беларусі і браў на сябе ўсе выдаткі) не вырашыць праблемы. Становішча палепшыцца толькі тады, калі беларускія клінікі атрымаюць сучаснае абсталяванне і якасныя медыкаменты, а беларускія спецыялісты палепшаць сваю кваліфікацыю на Захадзе, у тым ліку і ў CHL. Сродкі, неабходныя для ажыццяўлення гэтых праектаў, Дзіката разлічваў сабраць з дапамогай ахвяраванняў (ub, 1991).

Дзіката станоўча ацэньваў дзейнасць Міністэрства аховы здароўя Люксембурга, якое падтрымлівала чарнобыльскія ініцыятывы мясцовай грамадскасці. У траўні 1992 года *d’Lëtzebuerger Land* звярнуў увагу чытачоў на заяву міністра аховы здароўя Джоні Лаўра (Johny Lahure, 1942–2003), які меркаваў, што ВГЛ робіць усё магчымае, каб беларускія дзеці маглі лячыцца, а беларускія спецыялісты стажыравацца ў Люксембургу. Намякаючы на нямэтавае выкарыстанне заходніх сродкаў на постсавецкай прасторы, люксембургскі міністр адзначаў, што Беларусі трэба ў першую чаргу аказваць эфектыўную тэхнічную (абсталяванне, медыкаменты), а не грашовую дапамогу (*d’Lëtzebuerger Land,* 1992).

Аналіз “чарнобыльскіх публікацыяў” штотыднёвіка *d’Lëtzebuerger Land* дазваляе прасачыць асноўныя накірункі дыскусіі, якая разгарну-

лася ў Люксембургу пасля аварыі на ЧАЭС. У гэтай дыскусіі ўздымаліся галоўным чынам чатыры пытанні: 1) Якія наступствы мае трагедыя для насельніцтва Люксембурга? 2) Ці можа падобная аварыя адбыцца на Захадзе? 3) Як трэба ставіцца да выкарыстання атамнай энергіі пасля Чарнобыля? 4) Чым можа Люксембург дапамагчы ахвярам Чарнобыля?

Паводле афіцыйных дадзеных, аварыя ў Чарнобылі не прывяла да пагаршэння стану здароўя насельніцтва Вялікага Герцагства. Тым не менш трагедыя прымусіла шматлікіх люксембуржцаў перагледзець сваё стаўленне да атамнай энергетыкі. У Люксембургу не выключалі, што буйная атамная аварыя можа адбыцца і на Захадзе. АЭС у Катэноме разглядалася як крыніца значнай небяспекі для ВГЛ. *D'Lëtzebuerger Land* распавядаў пра тэхнічную і гуманітарную дапамогу, якую аказвалі Беларусі дзяржаўныя ўстановы Люксембурга і прыватныя асобы, і заклікаў насельніцтва падтрымаць высакародныя ініцыятывы М. А. Дзіката, Ф. Гробэн і іншых прадстаўнікоў грамадскасці. Аварыя ў Чарнобылі ўзмацніла ў Люксембургу цікавасць да Беларусі, якая да 1986 года заставалася для большасці люксембуржцаў малавядомай рэспублікай СССР.

***Бібліяграфія***

1. Изгаршев, В. (1991). "О таланте премии и добром сердце. История с продолжением." *Правда,* 06.09.1991.

2. Hilgert, Romain (2004). *Zeitungen in Luxemburg 1704–2004.* Luxemburg: Service Information et Presse.

3. j.p.h. (1986a). "Am Rande." *d'Lëtzebuerger Land,* 09.05.1986.

4. j.p.h. (1986b). "Auf Konfrontationskurs?" *d'Lëtzebuerger Land,* 20.06.1986.

5. j.p.h. (1987). "Die Tschernobyl-Auswirkungen aus Luxemburg. "Vom gesundheitlichen Standpunkt unbedeutend.", *d'LëtzebuergerLand,* 02.01.1987.

6. *d'Lëtzebuerger Land* (1986a)."Situation radiologique dans les denreés alimentaires sur notre marchés après Tchernobyl." 27.06.1986.

7. *d'Lëtzebuerger Land* (1986b). "Radiologische Lage der in unserem Handel erhältlichen Lebensmittel nach Tschernobyl. Monatsbericht (Stand: 20.08. bis 20.09.1986)." 26.08.1986.

8. *d'Lëtzebuerger Land* (1986c)."UngelösteProbleme." 24.12.1986

9. *d'Lëtzebuerger Land* (1992). "Johny Lahure." 08.05.1992.

10. l. th. (1986), "Anlaß zur Angst." *d'Lëtzebuerger Land,* 29.08.1986.

11. Welter, Diane and Schmitt, Antoinette (1990). "Weil das Leben kein Test ist. Brief an die Redaktion." *d'LëtzebuergerLand,* 12.10.1990.

12. pbs (1992). "Tschernobyl heute." *d'Lëtzebuerger Land,* 30.04.1992.

13. ub (1991). "WettlaufgegendieZeit." *d'Lëtzebuerger Land,* 17.05.1991.